ПАГНЯ

*РЭГІЯНАЛЬНЫ АГЛЯД: ГОРАДНЯ-ВІЛЬНЯ-БЕЛАСТОК* *ЗАСНАВАНА Ў 1920 г.*

*№ 11(67)* *15-21 красавіка 1994 г.* *Кошт 150 руб.*

**КРАСАВІЦКІ СОЙМ БНФ** *вылучыў кандыдатам у прэзыдэнты Зянона Пазьняка.*

**З ПОШТЫ:** *У далёкай чужыне хочацца трошкі чуць пра падзеі на нашай Бацькаўшчыне.*

*Саюз рабочых самарыцян зь Нямеччыны дапамагае берасьцейскім пенсіянерам.*

**ПРАГРАМА ТЭЛЕБАЧАНЬНЯ НА ТЫДЗЕНЬ:** *Менск – Варшава – Масква.*

# Віленскія паведамленьні

У Вільні адбыўся ўстаноўчы зьезд Партыі Сацыялістаў Летувы. Старшынёй яе абраны рабочы сталічнай пякарні Альбінас Вісоцкас. Ён зазначыў, што ў сваёй дзейнасьці арганізацыя будзе кіравацца, у асноўным, працамі Маркса. У праграме партыі сцьвярджаецца, што пытаньне аб утапічнасьці камунізму - тэорыя, а практыка дакажа, што гэты лад жыцьцяздольны.

Выступаючыя на зьездзе зьвярталіся да прысутных "дорогие товарищи".

* Пранас Шумуліс абраны прэзыдэнтам утворанай Фундацыі Здароўя Маці й Дзіцяці, якая была створана ў сувязі з катастрафічнай дэмаграфічнай сытуацыяй у Летуве: у краіне зараз вельмі нізкі натуральны прырост насельніцтва. Калі два гады таму ён складаў 3,3 на 1000 жыхароў, то летась - усяго 0,16. Міністэрствам аховы распрацаваны некалькі праграмаў паляпшэньня апекі над маці й дзіцём, аднак для іх рэалізацыі неабходна 180 мільёнаў літаў (45 мільёнаў даляраў).

* Групе юрыстаў даручана прадставіць Сойму й ураду краіны высновы: ці адпавядае летувіскае заканадаўства Эўрапэйскай Канвэнцыі Правоў Чалавека й еймым пратаколам. Існуючае зараз у Летуве пакараньне сьмерцю не адпавядае палажэньням канвэнцыі. Аднак, як падкрэсьліваюць юрысты, гэта не азначае, што пакараньне будзе скасавана, паколькі падчас ратыфікацыі кожная краіна можа не далучацца да асобных раздзелаў канвэнцыі.

* Два дні канцэртавала ў Вільні "зорка" расейскай эстрады Ала Пугачова з дачкой Крыстынай Арбакайтэ. Маці прадставіла дачку як "вынік летувіска-расейскай дружбы й каханьня". Білеты на канцэрт А.Пугачовай каштавалі ад 15 да 150 літаў (прыблізна 4-40 даляраў). Сродкі інфармацыі дакладна асьвятлялі, у якіх рэстарацыях яна бывала й што ела. Сьпявачке вельмі спадабалася ў Вільні, і яна паабяцала прыехаць зноў, але ўжо ў якасьці гледача на канцэрт мужа, Філіпа Кіркорава.

* У Летуве аб'яўлена аб урадавым рашэньні зрабіць цьвёрды абмэнны курс літа ў адносінах даляра ЗША. Вызначаны афіцыйны яго абмэнны курс - 3,999, што разглядаецца як кампраміс паміж экспарцёрамі, што жадалі бачыць адносіны даляра - 4,2, і эканамістамі, якія аддавалі перавагу суадносінам - 3,8 альбо 3,9. Камэрцыйныя банкі краіны ажыцьцяўляюць апэрацыі на курс 1:4, 1:4,1. Урад Летувы прадаў каля 10 мільёнаў даляраў, каб падтрымаць курс літа. На яго думку, гэтая мэра заклікана садзейнічаць канвэрсаванасьці літа й павялічэньню прытока заходніх інвэстыцый. Аднак кіраўніцтва шэрагу камэрцыйных банкаў асудзіла ўвядзеньне цьвёрдага курса, прагназуючы дэстабілізацыю літа. Парлямэнцкая апазыцыя апратэстоўвае рашэньне ўрада ў канстытуцыйным судзе.

**У.СТРУМІЛА.**

# Весткі з Польшчы

* Міжведамасная калегія па справах "Polonii" і палякаў за мяжой абмеркавала правы дзеяньняў польскага ўрада на карысьць стотысячнай польскай меньшасьці ў Казахстане.

У Алма-Аты нядаўна адбыўся кангрэс польскай дыяспары, які аб'ядноўвае тамашнія польскія арганізацыі ў Саюз палякаў у Казахстане.

"Самая неадкладная задача ў адносінах да казахскай "Polonii" - гэта дапамога ў культываваньні нацыянальных традыцый і польскай мовы, а таксама стварэньне для моладзі магчымасьці вучыцца ў Польшчы", - сказаў віцэ-прэм'ер А.Лучак.

* Пры абмеркаваньні праэкта аб будаўніцтве новай аўтастрады "Віа-Балтыка", балтыцкія краіны, якія працуюць над яе плянам, хочуць, каб пачыналася яна з Таліна, праходзіла праз Рыгу, Каўнас, Сувалкі й да Варшавы. Сваю прапанову ўнёс расейскі бок. На іх думку, шлях павінен пачынацца з Санкт-Пецярбурга, зноў-такі праз Рыгу, а далей на Каралевец, Эльбланд і скончыцца ў Гданьску.

* Некалькі соцень маладых ізраільцян, удзельнікі г.зв. маршу "Жывых" прыбылі ў канцлягер Майданак, каб ушанаваць памяць загінуўшых. У Майданку страцілі жыцьцё 300 тыс.чалавек, галоўным чынам габрэі.

Удзельнікі маршу, які праводзіцца пад лёзунгам барацьбы з расізмам і антысемітызмам, наведалі й Асьвенцым, дзе адбыліся галоўныя ўрачыстасьці.

* У Беластоку створаны Саюз аховы купцоў і работадаўцаў, які мае стаць зародкам агульнакраёвай арганізацыі такога тыпу. Саюз заснаваў свой выбарчы камітэт. Задачай "купецкіх радных" будзе нагляд за правільным фарміраваньнем гандлёвай і фінансавай палітыкі гарадзкой Рады ў адносінах да работадаўцаў.

* У ваяводзкай управе ў Беластоку адбылася рабочая сустрэча ў справе вызначэньня мейсца пад будаўніцтва новага аэрадрома. Удзельнікі нарады пагадзіліся з планам пабудовы летнішча ў ваколіцах вёсак Фальваркі Малыя й Фальваркі Вялікія Заблудаўскай гміны.

Для гэтай мэты адведзена 1500 га тэрыторыі. Забудова пачнецца не раней 2004 года.

* Ломжа хоча супрацоўнічаць з Лідай. Дэлегацыя ломжанскага аддзелу Таварыства прыяцеляў Горадні й Вільні, якая наведала Ліду, перадала старшыні гарвыканкама ліст ад віцэ-прэзідэнта Ломжы з запрашэньнем да супрацоўніцтва. Кантакты Ломжанскага аддзела ТПГВ з польскімі прыяцелямі пачаліся ў 1990 г.

**Па матэрыялах польскага друку.**

## АБ АСНОЎНЫХ НАПРАМКАХ ГРАШОВА – КРЭДЫТНАЙ ПАЛІТЫКІ

Савет Міністраў й Нацбанк прапанавалі парлямэнту на разгляд удакладнёны варыянт "Асноўных накірункаў грашова-крэдытнай палітыкі Рэспублікі Беларусь на 1994 год". Прыярытэтнымі мэтамі зьяўляюцца: зьніжэньне тэмпаў інфляцыі да канца года да 8-10 працэнтаў штомесяц і стабілізацыя курса беларускага рубля ў адносінах да расейскага й даляра ЗША.

Але ж гэтыя накірункі супрацьлежаць іншым, як захаваньне практыкі мэтавага крэдытаваньня асобных галін народнай гаспадаркі й дацыраваньне гэтых крэдытаў. На практыцы гэта адзначае, што па-ранейшаму стратныя прадпрыемствы, калгасы й іншыя суб'екты гаспадараньня будуць падтрымлівацца за кошт датацый з бюджэта. Гэтая палітыка вядзе да росту, а не да зьніжэньня тэмпаў інфляцыі. У прапанаваным праэкце пастановы Вярхоўнага Савета па гэтаму пытаньню ўтрымліваецца пункт аб прызнаньні да фактычнага аб'яднаньня грашовых сыстэмаў адзіным пляцёжным сродкам на тэрыторыі краіны разьліковага білета Нацбанка Рэспублікі Беларусь.

**Мас-мэдыа цэнтр.**

## Хто дапаможа беларусам у Салечніках?

У Воранаўскім аддзяленьні Аграпрамбанка адкрыты рахунак для пералічэньня сродкаў на рамонт у Салечніках будынка Беларускага культурнага Цэнтру. Каб яго адрамантаваць, на пачатак 1994 года патрабавалася 18 мільёнаў нашых рублёў. Беларусы з Салечнікаў паспадзяваліся на добраахвотныя ўзносы працоўных калектываў, банкаўскіх і камэрцыйных структур з Беларусі, паколькі чакаць дапамогі ад Беларускае дзяржавы ня мае сэнсу.

Аднак за год і два месяцы на рахунку ўсяго толькі 887 тысяч рублёў. Магчыма, шмат хто ня ведае аб просьбе салечніцкіх беларусаў. Таму нагадваем рахунак Беларускага культурнага Цэнтру - N 700336 у Воранаўскім аддзяленьні Белаграпрамбанку.

Шаноўныя беларусы, нашы суродзічы спадзяюцца на нашу дапамогу. Ды й хто ім можа дапамагчы, калі ня мы?

**(ав).**

## Паслугі даражэюць

Пачатак красавіка азнаменаваўся павышэньнем кошту праезду на розных відах транспарту. У два з паловай разы павысіліся тарыфы на пасажырскі чыгуначны транспарт, а таксама на міжгародныя перавозкі ў аўтобусах. На 20 працэнтаў узрасьлі тарыфы для праезда ў таксі гарадзенскага таксапарка. А з 5 красавіка ўдвая вырас кошт праезду ў грамадзкім транспарце Горадні, а штраф за безбілетны праезд на ім ужо складае 12 тысяч рублёў. Пакуль засталіся без зьмяненьняў тарыфы прыгараднага транспарту.

**А.Д.**

## Аб чым мараць будучыя прававеды?

Выпускнікі юрыдычнага факультэта Гарадзенскага дзяржаўнага унівэрсітэта імя Я.Купалы астудзілі сваё жаданьне папаўняць шэрагі КДБ і праваахоўных органаў. У гэтым годзе, за выключэньнем адзінак, большасьць жадае трапіць альбо на таможню, альбо ў камэрцыйныя структуры.

**М.ЖЫЛЕЎСКАЯ.**

## Дом для ахоўнікаў

Як стала вядома, адзін багаты гарадзенскі камэрсант вырашыў набыць ва ўласнасьць дом для сваіх ахоўнікаў. Для зьдзяйсьненьня гэтай мэты гарадзенец разаслаў сваіх людзей па розным куткам прыватнага сэктару Горадні, якія адшукваюць для пакупкі магчымых варыянтаў. Асабліва шчыруюць агенты там, дзе гаспадарамі хаты зьяўляюцца сталыя людзі.

Дарэчы, у хаце мяркуецца стварыць спартовую залю й некалькі пакояў для "сваіх" людзей.

## З замежнымі – няма праблем

Апошнім часам большасьць гарадзенскіх камэрсантаў аддаюць перавагу ў сваім гандлі тытунёвым вырабам і гумцы.

На запыт "чаму гэта так?" камэрсант Юры Пархові́ч адказаў: "У Горадні цяжка гандляваць каштоўным таварам. А з дробязей гарадзенцы чамусьці ахвотней купляюць замежныя цыгарэты й гумку, чым айчынныя. У сваім шапіку штодзённа прадаю да 100 пакункаў замежных тытунёвых вырабаў і толькі 10-20 пачак беларускіх."

Як вядома, для камэрсанта галоўнае - прыбытак.

## 150 тысячаў за ўзьлёт

150 тысячаў беларускіх разьліковых білетаў патрабуе адміністрацыя гарадзенскага аэрапорту "Абухава" за адзін узьлёт лёгкага спартыўнага летака ад грамадзкага авіяклюба Горадні.

"Мы ня ў стане заплаціць такую колькасьць грошай, бо ў нас аж пяць летакоў - спадар Г.Сурба, кіраўнік клюба.- Аднак ад жаданьня адчуваць сябе птушкай не адмовіліся. Зараз робім неабходныя захады да ўладаў, каб атрымаць дазвол скарыстоўваць стары аэрапорт Горадні. За гэта будзем лётнае поле аэрапорту ўтрымоўваць у належным стане.

**Г.АСТРОЎСКІ.**

## ЧАРГОВЫЯ ТАРГІ НА ВАЛЮТНАЙ БІРЖЫ ПРЫЗНАНЫ НЕАДБЫЎШЫМІСЯ

За сорак хвілін да пачатку таргоў 10 сакавіка на Міжбанкаўскай валютнай біржы было распаўсюджана пісьмо Старшыні Нацбанка Рэспублікі Беларусь С.Багданкевіча, у якім устанаўліваліся новыя патрабаваньні да пакупнікоў замежнай валюты. Цяпер прадпрыемствы, якім яна патрэбна, павінны прадстаўляць дылерам Нацбанка копіі дамоўленасьцяў на набыцьцё тавараў за мяжой ці на аказаньне паслуг з боку замежных дзяржаў.

На камэрцыйныя банкі, якія прадстаўляюць інтарэсы пакупнікоў, ускладаецца абавязак правядзеньня аналізу кантрактаў, прадстаўляемых камэрцыйнымі й пасрэдніцкімі структурамі. Хаця ліст Багданкевіча датаваны 2 сакавіка, пра яго існаваньне стала вядома толькі з ранку 10-га. Адпаведна, патрабаваньне аб прадастаўленьні копій кантрактаў ніхто з патэнцыяльных пакупнікоў выканаць не змог. Пасьля працяглых разбораў з прадстаўнікамі Нацыянальнага банка таргі ўсё ж пачаліся. Але пакольку курс даляра ЗША на іх у параўнаньні з папярэднімі павялічыўся больш чым на пяць працэнтаў (з 9120 да 12200 рублёў за даляр), яны прызнаны неадбыўшыміся.

**Мас-мэдыа цэнтр.**





# ПАЛІТЫЧНАЯ СЦЭНА

## КРАСАВІЦКІ СОЙМ БНФ

9 красавіка 1994 года адбыўся чарговы Сойм БНФ "Адраджэньне". Былі абмеркаваны пытаньні пазыцыі БНФ на будучых прэзідэнцкіх выбарах, дачыненьняў з іншымі палітычнымі сіламі, стварэньня ініцыятыўнай групы па збору подпісаў, арганізацыйныя задачы. Разгляддаліся таксама праграмныя палажэньні БНФ да прэзідэнцкіх выбараў.

Было адзначана, што Закон "Аб выбарах прэзідэнта" прыняты пад В.Ф.Кебіча. Калі Кебіч пераможа на выбарах, ён яшчэ больш узмоцніць сваю ўладу й давядзе эканоміку краіны да развалу, уцягне Беларусь у ваенныя канфлікты й міфічную рублёвую зону, якія давядуць нас да галечы, і інкарпаруе (прадасьць, каб выратаваць сябе ад народнага суда) у склад Расейскай імпэрыі. Калі пераможа Кебіч - пераможа мафія й карупцыя.

Наша задача - прыкласьці ўсе намаганьні, каб гэты варыянт выбараў прэзідэнта не ажыцьцявіўся.

Сойм БНФ аднагалосна вылучыў кандыдатам у прэзідэнты Рэспублікі Зянона Пазьняка.

Прапаганда нашай кандыдатуры ва ўсіх сродках інфармацыі, збор подпісаў толькі за свайго кандыдата, арганізаванасьць і дысцыпліна - вось тыя праблемы, над якімі ў бліжэйшы час трэба працаваць сябрам Фронту. У нас павінны быць добрыя адносіны з апазыцыйнымі дэмакратычнымі партыямі. Мы паважаем нашых саюзьнікаў з Грамады (БСДГ), але мы не лічым спадара Шушкевіча годным на пасаду прэзідэнта з-за яго палітычнай мяккасьці. У час рэформаў кіраўніком нашай дзяржавы павінен быць больш рашучы й пасьлядоўны палітык - Зянон Пазьняк. Час неакрэсьленых і непасьлядоўных дзеяньняў прайшоў. Мы ж мелі й маем цьвёрдую пазыцыю, але будзем больш гібкімі. Сойм БНФ прыняў заяву да апазыцыйных дэмакратычных партыяў Беларусі аб супрацоўніцтве ў час выбараў прэзідэнта. У нас адзіныя палітычныя прынцыпы - незалежнасьць, рэформы, дэмакратыя й адраджэньне. Сытуацыя для нашай незалежнай Беларусі крытычная: альбо незалежнасьць і свабоднае развіцьцё, альбо "бантустан" у складзе Расеі.

Сакратар Управы БНФ В.Івашкевіч вызначыў галоўныя арганізацыйныя задачы ініцыятыўнай групы БНФ:

1. Рэгістрацыя прадстаўнікоў БНФ у выбарчых камісіі з 15 па 19 красавіка 1994 года.
2. Вылучэньне прадстаўнікоў БНФ ва ўчастковыя камісіі.
3. Тактычныя захады ў час збору подпісаў.

Сакратаром Управы В.Вячоркам была выкладзена кароткая праграма БНФ. У ёй вызначаны захады БНФ па ўзмацненьню гарантаванай сацыяльнай абароны насельніцтва, павелічэньню пэнсіённага фонду, навядзеньню парадку, кампэнсацыі грашовых укладаў насельніцтва, уладкаваньню дабрабыту сям'і як найважнейшага клопату дзяржавы, прыярытэтнаму праву грамадзян Беларусі займаць вакантныя рабочыя месцы, прадухіленьню фізычнага вынішчэньня беларускага народу, рэзкаму зьніжэньню падаткаў для прадпрыемстваў і павелічэньню рабочых месц, прыняцьцю новага закону аб зямлі й кампэнсацыях за адабраную бальшавікамі зямлю й маёмасьць, упарадкаваньню фінансавай і банкаўскай сыстэм, увядзеньню нацыянальнай валюты, спыненьню інфляцыі й росту цэн, прыцягненьню да кіраваньня дзяржавай ва ўрадзе прафэсіяналаў, уладкаваньню дзяржаўнай службы на антыкарупцыйнай аснове, павелічэньню шэрагаў міліцыянтаў для барацьбы з крымінальнай злачыннасьцю, увядзеньню жорсткага візавага рэжыму для грамадзян дзяржаваў, якія вядуць вайну, раздзяленьню функцый улады народнай прыватызацыі, прыцягненьню намэнклатуры да суда за нарабаванае ў дзяржавы й народа, забароне вышэйшым кіраўнікам кампартыі займаць дзяржаўныя пасады.

**К.ЖЫНЬ,**
**Старшыня Гарадзенскай Рады БНФ "Адраджэньне", сябра Сойму БНФ.**

## ВЫБАРЫ ПРЭЗІДЭНТА БЕЛАРУСІ

У Горадні ўтворана ініцыятыўная група БНФ па збору подпісаў за кандыдата ў прэзідэнты Рэспублікі Беларусь Зянона Станіслававіча Пазьняка. У склад яе ўвайшло больш як 150 чалавек. З кожным днём група павялічваецца. Сярод жадаючых прыняць актыўны ўдзел у выбарах прэзідэнта - рабочыя, інтэлігэнцыя, моладзь, пэнсіянэры, былыя вайскоўцы.

Для правядзеньня выбараў нам неабходна фінансавая падтрымка. Наш рахунак N 100700015 ва ўпраўленьні Белбізнэсбанка г.Горадні, код 152101705.

Просім усіх зацікаўленых у падтрымцы ініцыятыўнай групы жыхароў горада Горадні й вобласьці зьвяртацца ў Раду БНФ на адрас: г.Горадня, вул.Савецкая 10, тэл. 45-41-83, 45-29-96.

Таксама па тэлефонах:

**у Ашмянах:** т. 2-02-05, 2-03-36;
**Астраўцы:** т. 2-57-40;
**Бераставіцы:** т. 2-25-55, 2-20-03;
**Ваўкавыску:** т. 2-07-43, 2-41-30, 2-54-44;
**Воранаве:** т. 2-24-40, 2-14-64;
**Гарадзенскім р-не:** т. 2-69-92, 45-28-71;
**Дзятлаве:** т. 4-38-67, 4-37-30;
**Зэльве:** т. 2-11-30, 2-23-72;
**Іўе:** 3-67-83;
**Карэлічах:** т. 2-03-01, 2-95-05;
**Лідзе:** т. 2-48-16;
**Шчучыне:** т. 2-10-78;
**Мастах:** т. 2-20-44;
**Навагрудку:** т. 2-27-93, 2-08-16;
**Слоніме:** т. 2-27-45;
**Смаргоні:** т. 5-15-94;
**Сьвіслачы:** т. 2-55-30.

**Ул.інф.**

## Шэраг беларускіх палітыкаў пачалі перадвыбарчую кампанію

Яшчэ да прыняцьця парлямэнтам праэкта новай Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь, які прадугледжвае ўвядзеньне паста прэзідэнта, некаторыя палітычныя дзеячы ўжо пачалі падрыхтоўку да будучых выбараў. Найбольш важнымі абставінамі шэраг экспэртаў лічыць супрацьстаяньне, якое ўзьнікла паміж Старшынёй Вярхоўнага Савета Мечыславам Грыбам і прэм'ерміністрам Вячаславам Кебічам.

Калі да выбраньня Грыба на пасаду сьпікера ён вёў сябе лаяльна ў адносінах да каманды Кебіча, то зараз сытуацыя зьмянілася. Па зьвестках з неафіцыйных крыніц, кіраўнік парлямэнта гатовы вылучыць сваю кандыдатуру на маючых адбыцца прэзідэнцкіх выбарах як альтэрнатыву Старшыні Саўміна. Гэта пацьвярджаюць ужо ўзьнікшыя разнагалосьсі паміж Грыбам і яго першым намесьнікам Вячэславам Кузьняцовым, які захоўвае аддансьць прэм'ер-міністру. З дзеяньняў Грыба таксама можна адзначыць паездкі па рэспубліцы, за кошт якіх ён, напэўна, разлічвае ўзьняць свой аўтарытэт у масах, і кадравыя перастаноўкі ў Прэзыдыуме Вярхоўнага Савета, якія ўзмацнілі пазыцыі міліцыянтскага гэнэрала.

Тым часам Вячэслаў Кебіч паводзіць сябе дастаткова пасіўна. Адзіным рэальным крокам з боку яго каманды можна лічыць прызначэньне першым намесьнікам міністра ўнутраных спраў былога камсамольскага функцыянэра Канстанціна Платонава, які нядаўна ўзьняў унутраныя войскі на падставе ананімнага тэлефоннага званка.

Яшчэ адзін патэнцыяльны прэтэндэнт на пост прэзідэнта старшыня калгаса й часовай камісіі па барацьбе з карупцыяй Аляксандр Лукашэнка шукае саюзьнікаў сярод супрацоўнікаў апаратаў Кебіча й Грыба.

Былы сьпікер Вярхоўнага Савета Станіслаў Шушкевіч, як і яго наступнік, актыўна сустракаецца з выбаршчыкамі й пасьпеў заручыцца падтрымкай дэмакратычных партый, якія маюць нахіл да цэнтру, у прыватнасьці, Беларускай Сацыял-Дэмакратычнай Грамады.

**Мас-мэдыя цэнтр.**

## У БАРАЦЬБЕ ЗА ПРЭЗІДЭНЦКАЕ КРЭСЛА САЮЗ ПАЛЯКАЎ БЕЛАРУСІ БУДЗЕ ПАДТРЫМЛІВАЦЬ ЗЯНОНА ПАЗЬНЯКА

Хоць да выбараў першага прэзідэнта Беларусі яшчэ багата часу, але большасьць палітычных партый, рухаў, саюзаў абралі сваіх кандыдатаў да барацьбы.

Не застаўся ў баку й Саюз палякаў Беларусі. Днямі старшыня праўленьня Саюзу - спадар Т.Гавін у прыватнай гутарцы згадаў кар. "Пагоні" так:"Асабіста я - за падтрымку Саюзам палякаў Беларусі лідэра БНФ - Зянона Пазьняка. Думаю, што маю ініцыятыву падтрымаюць і астатнія палякі, каму нечага варты воля й дэмакратыя."

**Г.ДАМІНІКАНСКІ.**

## "БЕЛАРУСЬ": ЛІДЭР ФРАКЦЫІ КАЗЛОЎ ГУБЛЯЕ ЦЯРПЛІВАСЬЦЬ

Падчас прыезду ў Менск старшыні камітэта Фэдэральнага Сходу Расеі Мікалая Ганчара ён сустрэўся з групай дэпутатаў Вярхоўнага Савету Беларусі. Асноўнае пытаньне сустрэчы - аб'яднаньне грашовых сыстэмаў.

Сп.Ганчар паведаміў прысутным, што Савет Фэдэрацыі Расеі не супраць стварэньня рублёвай зоны, але ў Расеі існуюць некаторыя сілы, якія спэцыяльна, каб запалохаць Беларусь, навязваюць палітычныя ўмовы аб'яднаньня. Не маючы магчымасьці назваць канкрэтную дату падпісаньня пагадненьня, ён удакладніў, што Рэспубліка Беларусь атрымае расейскія рублі не адразу пасьля падпісаньня а прыкладна праз паўгода. Што датычыць цаны на нафту, яна будзе вызначацца не пагадненьнем аб аб'яднаньні грашовых сыстэмаў, а дамовамі з нафтадабытчыкамі (сярод іх наўрад ці знойдуцца альтруісты!). Адмена мытных пошлін таксама не адбудзецца адначасова з падпісаньнем пагадненьня, бо, па словах сп.Ганчара, з'яўляецца вельмі складаным і доўгатэрміновым працэсам.

У канцы свайго выступленьня сп.Ганчар адзначыў, што калі Вярхоўны Савет Рэспублікі Беларусь прыме рашэньне аб правядзеньні рэфэрэндума накont аб'яднаньня дзьвюх дзяржаваў, Фэдэральны Сход Расеі, бязумоўна, падтрымае гэтую ініцыятыву. Ён выказаў упэўненасьць, што вынікі рэфэрэндума ў абедзьвюх краінах будуць станоўчымі.

Старшыня дэпутацкай фракцыі "Беларусь" Генадзь Казлоў давёў да ведама сп.Ганчара, што цярплівасьць беларускіх прыхільнікаў рублёвай зоны скончваецца й нават трохі папалохаў расейскага прадстаўніка магчымым зьяўленьнем Балтыйска-Чарнаморскай супольнасьці. Прадстаўнікі фракцыі Грамады заявілі, што яны супраць пагадненьня аб аб'яднаньні грашовых сыстэмаў, бо такім чынам Беларусь не атрымае ніякіх эканамічных дывідэндаў, але можа страціць статус сувэрэннай дзяржавы. Грамада выказалася за ўзаемавыгаднае супрацоўніцтва з Расеяй і іншымі краінамі СНД па прынцыпу Эўрапэйскай эканамічнай супольнасьці: з адменай мытных пошлін і стварэньнем валютнага саюза, кожны член якога мае ўласную валюту й, праводзячы жорсткую манетарную палітыку, узгадняе яе курс у адносінах да агульнага міждзяржаўнага разьлікова сродка.

Сябры фракцыі БСДГ таксама папярэдзілі сп.Ганчара, што ў выпадку прыхода апазыцыі да ўлады, будуць перагледжаны ўсе заканадаўчыя акты, прынятыя пасьля незаконнай забароны рэфэрэндума ў кастрычніку 1992 года, у тым ліку й пагадненьне аб аб'яднаньні грашовых сыстэмаў.

**Прэс-цэнтр БСДГ.**

### Патрабавалі адстаўкі ўрада

Такога яшчэ раней не было. Па патрабаваньню дэпутатаў дэмакратычнай арыентацыі была склікана пазачарговая сэсія Пінскага гарсавету. На павестку дня было вынесена пытаньне аб адказнасьці Саўміна Беларусі й яго кіраўніка за крызісны стан беларускай эканомікі. Не задаволілі народных абраньнікаў і адказы намесьніка беларускага прэм'ера Сяргея Лінга, які прыбыў з Менску абараняць урад.

Па сьцьвярджэньню "Берасьцейскага кур'ера", галасаваньне па пытаньню адстаўкі прэм'ера Кебіча не адбылося з-за адсутнасьці кворума.

**П.ЖЭБРАК.**

### Падпісалі зварот

Як паведаміў народны дэпутат Беларусі Уладзімір Новік, група парлямэнтарыяў зьвярнулася да прэм'ера Расеі Віктара Чарнамырдзіна з прозьбай аб сустрэчы. Дэпутаты, якія падпісалі зварот, у іх ліку Генадзь Карпенка, Леанід Козік, Аляксандр Сасноў і іншыя, жадаюць вылкласьці свой пункт гледжаньня на аб'яднаньне грашовых сыстэмаў. Па словах Новіка, праблема аднолькавых цэнаў на энэрганосьбіты й сыравіну для беларускіх і расейскіх прадпрыемстваў носіць хутчэй мытны, чым грашовы характар. У цане адной тоны камэрцыйнай нафты, пастаўляемай з Расеі на Беларусь, 39 даляраў ЗША складае мытны падатак.

"Калі Беларусь і Расея лічаць сябе раўнапраўнымі партнэрамі, то павінны быць гатовы да стварэньня агульнага рынка, валютнага й мытнага саюзаў, і ня толькі ў рамках двух дзяржаў", - лічыць Уладзімір Новік. Ён таксама папярэдзіў, што прэм'ер-міністр Кебіч настолькі далёка зайшоў з раздачай абяцаньняў насельніцтву Беларусі, што гатовы падпісаць любы варыянт аб'яднаньня, толькі б пагадзілася Расея.

**Мас-мэдыя цэнтр.**

### Дэпутаты жартуюць

На мінулай сэсіі Вярхоўнага Савета двойчы галасавалі па пытаньню аб назначэньні на пасаду сакратара плянава-бюджэтнай камісыі Зянона Ломаця. Нягледзячы на відавочную прыхільнасьць большасьці дэпутатаў да свайго калегі, лічбы на электронным табло няўмольна сьведчылі - пытаньне не праходзіць.

-Мабыць, уся справа ў тым, што кандыдат мае імя, якое падсьвядома выклікае ў "бальшавікоў" адмоўную рэакцыю, - пракамэнтаваў сытуацыю народны дэпутат з Горадні Мікола Юркевіч.

**М.М.**





ГРАМАДЗТВА

# Роднае даражэй за ўсё

Хата, якую вы бачыце на здымку, знаходзіцца ў вёсцы Гліняны Скідальскага сельсавета. Сьцены яе прагнілі, тынкоўка абвалілася, вокны заткнутыя ганучамі ці забіты тольлю. Частка сялянскай печы развалілася, дыміць, таму сьцены й толь чорныя, як вугаль. Падлогі ў хаце няма, два іржавых ложкі стаяць на зямлі.

Вось у такіх умовах жывуць сямідзесяцігадовы А.А.Пілько і яго сужыцелька С.Р.Лапіцкая. Гаспадар хаты - выхадзец з сялянскай сям'і. Бацька яго меў каля 7 гэктараў ворнай зямлі. Калі сталі стварацца калгасы, А.Пілько з бацькам у калгас не ўступіў. Сям'я перабівалася выдатковымі заробкамі: вязалі кошыкі, прадавалі садавіну з свайго гарода.

Калі не стала бацькоў, А.Пілько на працу не ўладкаваўся й таму працоўнага стажа не мае. Зараз ён разам з С.Лапіцкай жыве за кошт сацыяльнай пэнсіі, якая складае 50 % ад мінімальнага заробка, а таксама за кошт міласьцін. Восеньню прадаюць садавіну, іншы раз венікі.

Скідальскі сельсавет ужо многа гадоў прапануе гэтым людзям новае жытло, але яны адмаўляюцца перасяляцца. А.Пілько матывуе гэта тым, што хаця яго хата й развалюха, але свая, родная, ды й садка шкада. Можна не пагаджацца з яго меркаваньнямі, бо хаця б апошнія гады жыцьця мог бы пажыць у нармальных умовах, але ж трэба зразумець, што ў чалавека склаўся свой погляд на рэчы, што хату, дзе жылі яго бацькі й садок, які ён разам з імі апрацоўваў, ён ні на што не прамяняе.

**І.БАРЫСАЎ.**
**Фатаграфаваў аўтар.**



## БЕРАСЬЦЕЙЦЫ ЗАСТАНУЦЦА БЕЗ "ТРЫБУНЫ"

У Берасьці выдаецца дзьве газэты, заснавальнікам якіх зьяўляецца абласны Савет народных дэпутатаў, - "Заря" і беларускамоўная "Народная трыбуна". Але з красавіка апошняя перапрафілюецца ў маладзёжнае выданьне. Такое даручэньне пераарыентаваць газэту на маладзёжную тэматыку журналісцкаму калектыву дала XY сэсія вабласнога Савета народных дэпутатаў.

Яшчэ ў сярэдзіне 1992 года ў Берасьці выходзіла абласная маладзёжная газэта "Размова" тыражом у пяць тысячаў экзэмпляраў. Але спыніла сваё існаваньне з-за складанага фінансавага стану.

Як паведамілі ў рэдакцыі "Народнай трыбуны", газэта, як і яе папярэдніца, будзе двухмоўнай.

**Пётр ЖЭБРАК.**

# ЦІ ЎРАТУЮЦЬ НАШЫХ ДЗЯЦЕЙ ЗАМЕЖНЫЯ ЛЕКІ?

**Дзеці з парушэньнямі эндакрыннай сістэмы, відавочнымі адхіленьнямі ў фізычным разьвіцьці - гэта першасныя праявы сталага ўзьдзеяньня радыяцыі ў малых дозах на малады арганізм. Пра захады гарадзенскіх лекараў, скіраваныя на зьніжэньне ўзьдзеяньня радыяцыі карэспандэнту "Пагоні" расказвае загадчыца кафэдры дзіцячых хвароб Гарадзенскага мэдыцынскага інстытута - прафэсар Л.В.ЕВЕЦ.**

- Дзіцячыя лекары Горадні адразу забілі трывогу аб небясьпецы пасьля трыгічнай красавіцкай ночы 1986 года. На жаль, нашы сігналы засталіся непачутымі. Першыя досьледы высьветлілі, што ў дзяцей лідзкага, дзятлаўскага, іўеўскага раёнаў у крыві, касьцях, шчытападобнай і падстраўнікавай залозах ёсьць значная канцэнтрацыя сьвінцу, іртуці, нітратаў і іншых шкодных рэчываў.

**- Якія мэтады лячэньня прапанавалі Гарадзенскія дзіцячыя лекары?**

- Найперш было параена ўладам на месцах па асабістай ініцыятыве адсяліць дзяцей з забруджаных зонаў. Але хто ў нашай краіне слухае добрыя парады, калі навокал пануе афіцыйная думка ЦК КПСС? Адным словам, ад нас адмахнуліся, як ад надаедлівых мух, - маўляў, ёсьць інструкцыя Міністэрства аховы здароўя СССР, зацьверджаная ў ЦК, ёю і будзем кіравацца.

**- Што ж гэта за інструкцыя?**

- Дакладна ня ведаю. Але па рэакцыі тутэйшых уладных структураў - гэта "знакамітае" аздараўленьне дзетак за мяжою. Хто, як і куды вазіў аздараўляць дзяцей - напісана шмат. Я паспрабую толькі дадаць, што тагачасныя бюракраты й тут сьцямілі, як здабыць уласную выгоду.

**- Што можна згадаць пра замежны адпачынак нашых дзяцей ?**

- Пасьля таго, як групы дзяцей вярнуліся з замежжа да дому, мы паўторна рабілі аналізы й высьветлілі, што ўтрыманьне шкодных рэчываў у арганізме дзетак амаль не зьнізілася. Прычыны самыя банальныя. Па-першае, кароткі адаптацыйны пэрыяд: пуцёўка на 12-20 дзён - гэта не тэрмін для лекаваньня, а фарс. Па-другое, моўныя, культурныя й усялякія бытавыя непаразуменьні не давалі патрэбнага эфэкту. Мы разумелі псыхалягічны момант, але ўзьдзейнічаць на нулявыя вынікі не маглі. Нам тыкалі ў твар лекавай карткай, дзе было запісана, што і калі атрымаў пацыэнт. Па картцы было відаць, што лячэньне было на ўзроўні, а эфэкт - слабы.

**- Калі вас правільна зразумеў, то замежнае лячэньне - гэта выкінутыя грошы дзяржавы, дабрачынных арганізацыяў і прыватных асобаў.**

- Я б так рэзка не канстатавала, бо ў тых выпадках, дзе гамана йдзе пра хірургічныя захады ў замежных краінах, сумненьня няма. Іншая справа - групавыя аздараўленчыя паездкі. Я ўпэўнена на сто працэнтаў, што аздараўленьне на месцы значна эфэктыўней. Думаю, што трэба мэтавая праграма, якая б рэалізавалася ў спэцыяльнай лекавай установе. Мы пайшлі такім шляхам, і хутка ў Горадні запрацуе экалягічны цэнтр, які будзе займацца досьледамі, даваць на высновe іх патрэбныя парады, прызначаць лекі. Кожнае хворае дзіця будзе лекавацца па індывідуальнаму пляну, а не па шаблону замежных аздараўленчых вандровак. Ў пэрспэктыве свайго вынаходніцтва я ўпэўнена. Задаволена, што ў вышэйшых эшалёнах дзяржаўнай улады мяне разумеюць і падтрымліваюць.

**- Калі можна чакаць першых вынікаў ад дзейнасьці экалягічнага цэнтру?**

- Думаю, калі цэнтр запрацуе, то вынікаў не давядзецца чакаць працяглы час. Ужо зараз мы рыхтуем абсталяваньне, кадры, распрацоўваем навуковыя праграмы.

**- Дзе будзе мясьціцца цэнтр?**

- Хочам працаваць на базе нашага інстытута. Тут добры навуковы патэнцыял, шмат людзей, якія душой балеюць за нашу будучыню. Асабіста ня выключаю супрацоўніцтва й з іншымі навукова-дасьледчымі ўстановамі Горадні, рэспублікі. Інакш, калі тут, на месцы, ня здолеем стварыць сваю дзяржаўную ўстанову, якая б займалася праблемай стагоддзя - чарнобыльскай трагедыяй - і выратоўвала, то адны замежныя дабрачынныя акцыі нашым дзецям не дапамогуць.

**Г.У.**

*Пошта*

# "Пагоня" сягнула Аўстраліі

Паважаная рэдакцыя!

Зьвяртаюцца да Вас беларусы далёкай Аўстраліі. Мы зацікавіліся Вашай газэтай, якая трапіла да нас, а асабіста мне як старшыні Беларускага Цэнтральнага Камітэту ў Мэльбурне. Прачытаўшы яе, у нас зьявілася думка, каб як-небудзь навязаць лучнасьць ды атрымоўваць яе рэгулярна, калі гэта магчыма. Бо ў далёкай чужыне хочацца трошкі чуць пра падзеі на нашай Бацькаўшчыне й пра яе шматпакутны народ.

Да гэтага часу, як Вам вядома, нельга было нічога дастаць на беларускай мове й, прачытаўшы Вашую паважаную, сапраўды нацыянальнага духу газэту, хочацца яе мець сярод нашых людзей у Аўстраліі.

Дзеля гэтага просім Вас, каб напісалі нам як і колькі яна будзе каштаваць на год за экзэмпляр, а мы з свайго боку будзем удзячныя Вам за Вашую ласку. Шчыра дзякуем.

Жадаем Вам усім здароўя й даўгалецьця ды плённай працы на карысьць нашай дарагой Бацькаўшчыны й яе народа.

ЖЫВЕ БЕЛАРУСЬ!!!

**З пашанай да Вас усіх**
**Паўла ГУЗ, Мэльбурн.**

# "Шчыра дзякую за газэты"

Добры дзень, шаноўная рэдакцыя!

Шчыра дзякую Вам за дасланыя газэты, шмат матэрыялаў з якіх я выкарыстаў для падрыхтоўкі нумара газэты "Прамень" , якую я цяпер рэдагую. На жаль, ужо два тыдні, як перастаў атрымоўваць "Пагоню". І зразумела чаму. Шукаю каго-небудзь з мясцовых беларусаў, хто паедзе ў Менск, каб перадаць грошы Адаму Мальдзісу. Ён, спадзяюся, знойдзе магчымасьць перадаць грошы ў рэдакцыю. На жаль, мне не паведаміў спадар Ганько, што выяжджае ў Беларусь, а даведаўся я аб гэтым,калі ён ужо выехаў.

Мне асабліва крыўдна было ат таго, што перастаў атрымліваць "Пагоню", бо чакаў матэрыялаў аб чарговай сэсіі Вярхоўнага Савету. Вельмі хачу Вас папрасіць зьліквідаваць перарыў. Апошні нумар, які я атрымаў, быў за 12-19 лістапада г.г. На днях сп.Хрэноўскі, старшыня Згуртаваньня беларусаў у Квэбэку, перадасьць мне некалькі асобнікаў "Праменя", тады адзін асобнік перашлю Вам. Хацелася б даведацца, ці хацелі б Вы атрымліваць "Прамень" і надалей. Напішыце, калі ласка, толькі два словы - так ці не. І яшчэ, можа, Вас цікавіць магчымасьць атрымліваць нашыя эміграцыйныя газэты (маю на ўвазе "Беларус", "Зважай", "Беларускі Дайджэст", "Весткі й паведамленьні БАЗА" і "Прамень").

Чакаю Вашага адказу.

**Раман КАРДОНСКІ, Манрэаль.**

**P.S.** Ці не растлумачыце мне, чаму Вы пішаце "Горадня", калі, наколькі мне вядома, трэба пісаць " Гародня". Націск на другім складзе!

**P.P.S.** Газэты шліце, калі ласка, простымі лістамі, а не заказнымі, яны ўсе добра даходзяць, а каштуюць таньней.

**Ад рэдакцыі:**

Вельмі ўсьцешаныя ад таго, што газэта, якую мы робім, патрэбная людзям як тут, на Бацькаўшчыне, так і далёка за акіянам. Сябры рэдакцыі будуць рабіць усё магчымае, каб "Пагоня" й надалей радавала сваіх чытачоў. І самай высокай адзнакай нашае працы, самымі лепшымі артыкуламі ў ёй будуць Вашыя лісты да нас. Яны, й толькі яны могуць сьведчыць пра Ваш давер да нас, бо чужым людзям звычайна ня пішуць. Толькі дзякуючы Вашым допісам газэта стане больш інфармаванай, а значыць- больш цікавай і неабходнай.

Пішыце пра ўсё, што Вас турбуе й хвалюе. Пішыце пра свае ўражаньні ад тых падзей, якія адбываюцца на Беларусі і ва ўсім сьвеце. Пішыце ўспаміны, дасылайце архіўныя матэрыялы. Пішыце пра тое, што цікавага адбылося ў вашай вёсачцы, раёне, горадзе. Мы абяцаем, што ніводзін ліст не застанецца без увагі.

Што тычыцца вельмі канкрэтных пытаньняў нашых прыхільнікаў з далёкіх Канады і Аўстраліі, аб рэгулярнай дасылцы "Пагоні", ня ведаем, наколькі карыснай Вам будзе інфармацыя пра наш валютны рахунак - 1070532 у Рэгіянальным Камэрцыйным Банку "Комплекс",- бо гэты банк мае карэспандэнцкія адносіны не з усімі замежнымі банкамі. Трошкі пазьней мы дэталёва даведаемся й паведамім Вам пра ўмовы індывідуальнай падпіскі на "Пагоню" для жыхароў іншых краін. Тады ж падамо й кошт газэты разам з паштовымі расходамі. А пакуль што,перасылку ў вызначаныя намі адрасы, наколькі хопіць нашай фінансавай моцы, як і раней, мы будзем зьдзяйсьняць за кошт рэдакцыі. Безумоўна, мы ня можам валодаць усёй інфармацыяй пра найбольш буйныя й уплывовыя беларускія цэнтры, менавіта туды ў першую чаргу мы будзем адсылаць газэты. А таму яшчэ раз просім - пішыце нам.

# ЭКАНОМІКА

## Пра транспарт, сувязь, бытавыя паслугі й гандаль

У аблвыканкаме адбылася прэсканфэрэнцыя намесьніка старшыні аблсавету - спадара А.М.Пашкевіча. Спадар Пашкевіч курыруе ў вобласьці такія галіны прамысловасьці, як транспарт, сувязь, бытавыя паслугі ды іншае.

У сваёй прамове Анатоль Міхайлавіч зазначыў, што з 167 прадпрыемстваў стабільна працуюць толькі 47. З-за нерытмічнай працы ў бюджэт горада недабрана 8 мільярдаў рублёў, што ў сваю чаргу адмоўна паўплывала на некаторыя сацыяльныя праграмы. Далей прамоўца згадаў, што на транспарце таксама катастрафічнае становішча. Рухомы склад аўтапаркаў вобласьці патрабуе капітальнага рамонту й абновы. Пра ўстановы бытавых паслуг было сказана, што гэта самае балючае месца як у Горадні, так і ў вобласьці. Адзіная галіна вытворчасьці, якая прынесла ў касу Гарадзеншчыны прыбытак - гэта сувязь.

Пра дзейнасьць камэрцыйных структураў было заяўлена так:"У вобласьці існуе 970 малых і сумесных прадпрыемстваў. Толькі 9% ад агульнай колькасьці займаюцца вытворчасьцю, а гэта ўсяго 4% ад усяго аб'ёма выпуску тавараў."

Як канстатаваў спадар намесьнік - сёлета на 45,5% зьнізілася - вытворчасьць прамысловых тавараў, а тавараў народнага спажываньня на 26,4%.

Адзінае выйсьце з крызісу, па словах Анатоля Міхайлавіча, - гэта перабудова прадпрыемстваў на мясцовую сыравіну й тавары народнага спажываньня, што дагэтуль не выраблялся ў рэспубліцы.

Што тычыцца гандлю, то было сказана, што тут будуць шматлікія скарачэньні. Ужо скарочана 90 чалавек - галоўным чынам чыноўнікаў з упраўленьня па гандлю.

Напрыканцы былі пытаньні. Найбольш цікавае тычылася замежных легкавікоў на адпаведнасьць апошніх патрабаваньням экалёгіі. Спадар Пашкевіч зазначыў, што распрацоўваецца спэцыяльны тэст, пры дапамозе якога ДАІ будзе вызначаць адпаведнасьць усіх легкавікоў экалягічным нормам.

## Гарадзенцы аддаюць перавагу малаку

Яшчэ ў 1991 годзе на кожнага гарадзенца прыпадала да 40 кіляў мяса на год. За адзін дзень у крамах горада прадавалася да 60-ці тон мяса за дзень. Сёлета гэтая лічба панізілася да 8-10 тон на дзень. Затое значна павысіўся попыт жыхароў Горадні на малочныя прадукты.

Прычына тут не ў прыхільнасьці гарадзенцаў да тварагу, кэфіру, а ў таннасьці вышэйзгаданых гатункаў ежы.

## На чарзе - лекары

Абвальнае спыненьне гарадзенскіх заводаў і фабрыкаў адмоўна адбілася ня толькі на становішчы рабочых. Адначасова пад гэты магутны прэс трапілі цэхавыя ўрачы. І калі рабочыя адпраўляюцца ў вымушаныя адпачынкі з гарантыяй атрыманьня хоць і мізэрнай кампэнсацыі, то лекары звальняюцца без усялякага ўтрыманьня. Па дадзеных газэты "Пагоня" на атрыманьне працы ў бюро па працаўладкаваньню Горадні на чарзе знаходзіцца 10 маладых зубных тэхнікаў. У той жа час у стаматалягічных паліклініках горада працуе нямала пэнсіянэраў.

## На працу уласным летаком

Адзін гарадзенскі канструктар-самавучка закончыў распрацоўку ўласнай канструкцыі летака. Сваё вынаходніцтва гарадзенец жадае выкарыстоўваць як сродак транспарту.

Цікава, ці зарэгіструюць гэты лятальны апарат мясцовыя ўлады?

## У беларускіх памежнікаў новыя строі

Газэта "Пагоня" пісала, што беларускаму памежнаму войску падрыхтаваны новыя арыгінальныя строі. Як стала вядома рэдакцыі, існуе загад закончыць пераабмундзіроўку беларускіх памежнікаў у новую форму да траўня месяца.

## Замовы ўпраўленьня памежнага войска

Днямі пры дапамозе гарадзенскай фірмы "Шэрл" прадстаўнікі цэнтральнага штабу памежнага войска заключылі дамову на выкананьне тысячы ключоў да чыгуначных вагонаў.

"Гэта першае пагадненьне, - згадаў кар. "Пагоні" старэйшы афіцэр штабу. - Мы й надалей мяркуем супрацоўнічаць з гарадзенскімі камэрсантамі. Ёсьць жаданьне замовіць у гарадзенскай друкарні ўзоры існуючых пашпартоў амаль усіх краін сьвету."

## На сваёй сыравіне

Многія гарадзенскія заводы, каб застацца на плыву, распачалі перапрафіляцыю вытворчых цэхоў на новыя віды прадукцыі, аснову для якіх складае мясцовая сыравіна.

Так, на заводзе "Радыёпрыбор" нядаўна прыступілі да вытворчасьці малагабарытнага тэлевізара; на заводзе Гандлёвага машынабудаваньня перайшлі на выпуск ацяпляльных катлоў, пастэрылізатараў малака, а таксама абсталяваньня для вытворчасьці лекаў; на вытворчым аб'яднаньні "Хваля" распачалі зборку гэнэратараў да трактароў "Беларусь".

## Вядомым шляхам

Усё шырэй і шырэй уваходзіць у прыктыку Гарадзенскіх заводаў і фабрык выплочваць заробак гатовым таварам. Паспыталі такі шлях і на заводзе "Палімэр". Тут у якасьці заробку распачалі плаціць рабочым поліэтыленавай плёнкай, якую рабочыя вязуць на продаж да Польшчы й Летувы.

Цікава, што будзе, калі да такога ж дадумаюцца там, дзе гатовая прадукцыя мае вялікія габарыты?

Падрыхтаваў Г.Астроўскі

## СТАРАСЬЦЬ - НЕ РАДАСЬЦЬ

Зрабіў я аднойчы ў краме "Зорка", што па бульвару Ленінскага камсамолу ў Горадні, закупы. Скажу шчыра, што на маю інвалідзкую пэнсію надта не пашыкуеш. Таму, каб сродкаў хапіла да наступнай рэнты, заўжды вяду падлік набытага тавару. Калі ж дайшло да разьліку, то маладая крамніца аблічыла мяне, 76-гадовага чалавека, на 4900 рублёў. Куды я толькі не скардзіўся, куды толькі не хадзіў, але праўды здабыць ня змог. Так і застаўся з горыччу на душы ад несправядлівасьці. Ня ведаю, можа, рэдакцыя "Пагоні" дапаможа?

В.СЕГІНЬ, пэнсіянэр.

АД РЭДАКЦЫІ: Паважаны спадар Сегінь, мы пацікавіліся гэтым выпадкам у адміністрацыі крамы "Зорка". Намесьнік дырэктара Я.К.Глінда на наш запыт згадала так:"У нас паўсюдна электронныя шалі, і па іх мы вядзем разьлікі. Проста сталыя людзі не пасьпяваюць сачыць за хуткім ростам коштаў на тавары і таму часам сустракаюцца такія вось непаразуменьні."

## МФК ДАПАМОЖА Ў РАЗДЗЯРЖАЎЛЕНЬНІ

Рэспубліка Беларусь першай з былых саюзных рэспублік стала членам Міжнароднай фінансавай карпарацыі і з траўня мінулага года атрымлівае дапамогу ў правядзеньні малой прыватызацыі. Ужо амаль год МФК пасьпяхова ўзаемадзейнічае з берасьцейскімі ўладамі. А Горадня стане першым горадам, дзе на практыцы будзе ажыцьцяўлены вопыт, пазапашаны ў Берасьці. На пазамінулым тыдні чатыры кансультанты МФК пачалі аказваць садзейнічаньне гарадзкім уладам у арганізацыі другога аўкцыёна па продажу аб'ектаў камунальнай уласнасьці. Увогуле ж з дапамогай гэтай арганізацыі будзе перададзена ў прыватныя рукі 375 аб'ектаў, магчыма, асноўная частка ўжо сёлета.

Дарэчы, Міжнародная фінансавая карпарацыя зьяўляецца членам Сусьветнага банка, і адной з асноўных яе задач зараз зьяўляецца садзейнічаньне развіцьцю прыватнага сэктара ў постсацыялістычных краінах.

А.Д.

## *Навіны Берасьцейшчыны*

### І ў нас будуць... зоны

Берасьцейскі аблвыканкам прыняў рашэньне аб стварэньні на тэрыторыі вобласьці рэжымных памежных зонаў і памежнага рэжыму. У склад зон увойдуць усе пункты пераходу мяжы, будуць знаходзіцца "на рэжыме" і асобныя месцы вабласнога цэнтра. Праўда, рэжым будзе даволі мяккі - для пераходу непатрэбны спэцыяльны дазвол, але неабходна мець дакумэнт, які засьведчыць асобу.

Чакаецца, што гэтыя мэры зьменшаць колькасьць парушэньняў дзяржаўнай мяжы ў раёне Берасьця, якія зьдзяйсьняюцца ў асноўным іншаземнымі грамадзянамі й набылі ў апошні час масавы характар.

### Нямеччына падтрымлівае мясцовых пэнсіянэраў

Падарунак ад Саюзу рабочых-самарыцян з нямецкага горада Кемніцэ, мікрааўтобус "Фольксвагэн", атрымаў тэрытарыяльны цэнтр абслугоўваньня пэнсіянэраў. Перадалі яго кіраўнік цэнтру й прадстаўнік вышэйназванай аўтамабільнай фірмы. Прывезьлі яны ў Берасьце таксама абутак, пасьцельную бялізну. Гэтая нямецкая дабрачынная арганізацыя даўно хацела ўзяць пад апеку нашых састарэлых. Дапамагла ёй у гэтым фірма "Глобус-Брэст", якая выступіла ў ролі пасярэдніка.

У Саюза рабочых-самарыцян ёсьць добры намер і далей працягваць сяброўства з берасьцейскім тэрытарыяльным цэнтрам абслугоўваньня пэнсіянэраў і аказаць дапамогу ў будаўніцтве Дома састарэлых.

### Выратаваньне тапельцаў

Эпідэмічны характар набывае ў Берасьці адносна новы від крадзяжу. Гэта крадзёж кватэрных бытавых электралічыльнікаў на лесьвічных пляцоўках. У кожным доме міліцыянта не паставіш, таму іх захаванасьць у значнай ступені залежыць ад саміх жыхароў: ім неабходна надзейна зачыняць дзьверы мэталічных скрынак, дзе знаходзяцца лічыльнікі.

### Абмен паўнацэнны – рэстаранамі

Берасьцейскі аблвыканкам даў згоду на ўдзел Берасьцейскага мясакамбіната ў якасьці заснавальніка замежнага прадпрыемства рэстарана "БУГ" у польскім горадзе Люблін, бо ў прадпрыемства ўзьніклі цяжкасьці са збытам прадукцыі на ўнутраным рынку.

Палякі абяцаюць адказаць узаемнасьцю й адкрыць падобную кропку грамадзкага харчаваньня ў горадзе над Бугам.

Падрыхтаваў П.Жэбрак

## *Даведкі ў юрыста*

### ЗАВЯШЧАНЬНЕ

**Апошнім часам усе часьцей у рэдакцыю зьвяртаюцца людзі з просьбай атрымаць тую ці іншую юрыдычную кансультацыю. Большасьць пытаньняў датычыць, як правіла, асабістай уласнасьці: шмат каго цікавіць тое, як прыватызаваць жыльле, скласьці завяшчаньне й г.д.**

Пры складзе завяшчаньня сам чалавек вызначае, хто стане яго нашчадкам. Таму часта здараецца так, што пасьля сьмерці бацькоў не заўседы дзеці зьяўляюцца ўласьнікамі таго, што пасьля іх засталося. Скласьці завяшчаньне можа толькі той чалавек, які па стану свайго здароўя і ўзросту здольны разумець значэньне сваіх дзеяньняў, адказваць за іх і самастойна зьдзяйсьняць прававыя рашэньні.

У выпадку, калі чалавек непісьменны, хворы альбо мае нейкія фізычныя недахопы, якія перашкаджаюць яму гэта рабіць, гэта можа выканаць па яго просьбе любая іншая асоба ў яго прысутнасьці, а таксама ў прысутнасьці дзяржаўнага натарыуса. Што датычыць людзей, у якіх страчаны слых і зрок, абавязкова прысутнасьць перакладчыка, які мае адпаведныя дакумэнты.

Дзеля таго, каб завяшчаньне лічылася сапраўдным, яно павінна адпавядаць натарыяльнай форме альбо быць прыроўненай да яе.

Згодна артыкулу 536 Грамадзянскага кодэкса Рэспублікі Беларусь да натарыяльна-сапраўдных завяшчаньняў прыраўніваюцца:

- завяшчаньні грамадзян, якія знаходзяцца на лячэньні ў шпіталях, іншых стацыянарных лячэбна-прафілактычных установах, санаторыях альбо жывуць у дамах для прыстарэлых і інвалідаў. Іх знаходжаньне павінна быць пацьверджана адміністрацыяй гэтых установаў;
- завяшчаньні грамадзян, што знаходзяцца ў часовым плаваньні на марскіх суднах альбо на суднах унутранага плаваньня. Даведка павінна быць зацьверджана капітанам такога судна;
- завяшчаньні грамадзян, якія знаходзяцца ў разьведачных, арктычных і іншых экспэдыцыях. Даведка павінна быць зацьверджана начальнікам экспэдыцыі;
- завяшчаньні вайскоўцаў, якія знаходзяцца на лячэньні ў шпіталях, санаторыях і іншых лячэбных установах, зацьверджаныя вайсковымі мэдыкамі;
- завяшчаньні вайскоуцаў у пунктах разьмяшчэньня вайсковых частак, дзе адсутнічаюць дзяржаўныя натарыяльныя канторы;
- завяшчаньні асобаў, якія адбываюць пакараньне, зацьверджаныя адпаведнымі органамі.

Як ужо ўзгадвалася вышэй, у завяшчаньні грамадзянін сам вызначае пэўны круг нашчадкаў, а таксама каго-небудзь з іх пазбаўляе спадчыны. Аднак пэўную катэгорыю нашчадкаў згодна з законам ён ня мае права пазбавіць спадчыны. Яны маюць права на абавязковую долю, якая складае ня меней дзьвюх трэціх усей спадчыны. У гэты сьпіс уваходзяць:

- непаўналетнія (ва ўзросьце да 18 гадоў) і паўналетнія, якія непрацаздольныя, у тым ліку й тыя, каго ўсынавілі;
- непрацаздольныя мужык ці жонка;
- непрацаздольныя бацькі (альбо тыя, хто ўсынаўляў);
- непрацаздольныя іжджівенцы, г.зн.тыя, хто пражыў ня меней за год з тымі, хто рабіў завяшчаньне.

У завяшчаньні можна зрабіць цэлы шэраг спэцыяльных распараджэньняў, ускласьці на нашчадкаў выкананьне якіх-небудзь абавязкаў. Да прыкладу: грамадзянін М. завяшчаў сваей дачцэ сваю кватэру з правам пражываньня ў ёй да сьмерці яго жонкі.

У выпадку, калі грамадзянін, які жадае скласьці завяшчаньне, па стану здароўя ня здольны зьявіцца ў натарыяльную кантору, натарыус выяжджае да яго дахаты альбо ў шпіталь ці іншае месца, дзе ён знаходзіцца.

Таццяна БЕРНАТОВІЧ.

КУЛЬТУРА

# «СЯБРЫНА»– АРГАНІЗАЦЫЯ НЕПАЛІТЫЧНАЯ

**Інтэрв'ю са старшнёй Віленскага клюбу народнай творчасьці "Сябрына" сп. Валяньцінам СТЭХАМ прапаноўвае нашым чытачам Ул. Струміла.**



**- Калі й як узьнікла "Сябрына"?**

Паўстала яна ў 1987 годзе, аднак у выніку пэўных палітычных абставін клюб быў афіцыйна зарэгістраваны толькі праз год - у чэрвені 1988. А як паўставала "Сябрына", дык гэта цэлая гісторыя. Я атрымаў паштоўку ад Валдаса Банайціса (урач-нарколаг Віленскага раёна, вялікі закаленец беларушчыны - прып. Ул.С.), які вычытаў мой адрас у "ЛіМе". Вырашыў з дапамогай беларускамоўнае перыёдыкі выйсьці на іншых падпісчыкаў. Зьвярнуўся ў экспэдыцыю пры чыгуначным паштамце, дзе й сабраў першы банк дадзеных - звыш 1000 падпісчыкаў "ЛіМа", "Зьвязды", "Чырвонай зьмены", "Полымя", "Бларусі". (Дарэчы, усе гэтыя выданьні былі да набыцьця і ў віленскіх кіёсках - прып.Ул.С.).

Сабраць сабраў, і што далей? Набліжалася якраз нейкае сьвята, дык і вырашыў павіншаваць падпісчыкаў. Ня ўсіх вядома,але выслаў вельмі многа адрсоў. Ад трэцяй часткі атрымаў лісты з пажаданьнямі пазнаёміцца бліжэй. Пазнаёміўся такім чынам з Янкам Багдановічам, Юркам Зімніцкім, Верай Шостак і іншымі. Пачалі зьбірацца, дзяліцца думкамі, выходзіць на іншых. Вырашылі наведаць Зоську Верас у "Лясной хатцы"("Лясная хатка" знаходзілася на дарозе да Пакараў, крыху на адлюддзі ў маляўнічым гаі над берагам Віліі, адсюль і пайшла неафіцыйная назва - прып. Ул.С.). Неадшкадаваная сп. Зоська Верас першая выказала думку аб заснаваньні беларускага клюбу, якая ўсім вельмі ўжо прыпала да сэрца. Жаданьне было, дык і закруцілася машына.

**- Лёгка сказаць, але нехта павінен быў і кіраваць.**

- Гэтая ноша лягла на мяне. А арганізацыйнай працы сапраўды хапала. Нахадзіўся й насустракаўся, што й гаварыць, шмат. Але, і гэта трэба аб'ектыўна падкрэсьліць, усюды сустракаўся з сымпатыяй. Клюб зарэгістравалі і ў хуткім часе атрымалі месца ў Палацы Прафсаюзаў. Галоўнае, што мелі цяпер дзе сабрацца, запрасіць гасьцей...

**- Вось і пяройдзем да гэтага. Хто, калі і з чым прыяжджаў ці прыходзіў да вас?**

- Не прапускалі ані воднае нагоды запрасіць да сябе артыстаў з Менску, якія прыяжджалі ў Вільню на гастролі, а было гэта нашмат часьцей, чым цяпер. Цяжка цяпер прыгадаць усіх. Толькі апошнім часам па ініцыятыве й сіламі клюбу быў арганізаваны вечар, прысьвечаны 100-годдзю Паўліны Мядзёлкі, якая адна з першых выканала ролю Паўлінкі ў аднайменнай п'есе Янкі Купалы. Запрасілі тэатр "Дыяген" з Пінску. Усё прайшло на гура.

Цікавай была й лекцыя пра жывапіс Беларусі 12-19 стагоддзяў. Вельмі многа людзей сабрала сустрэча з вядомымі ў Беларусі фальклярыстамі Ліяй Салавей і Арсэнам Лісам. Усе засталіся задаволеныя з каталіцкае й праваслаўнае калядные вечарыны. Было гэта ў мінулым годзе, а ў гэтым упершыню зарганізавалі традыцыйныя запусты. І, вядома, прынялі ўдзел у віленскім "Казюку". Нядаўна правялі выставу беларускае кнігі ў Вільні. Дарэчы, цікавыя людзі прыяжджаюць да нас ня толькі з Беларусі. Цікавых людзей шмат і сярод нас. Яшчэ напачатку ўзьнікла думка стварыць хор, тым больш што маем прафэсыйнага сьпевака, былога саліста Віленскай Опэры сп. Юрку Зімніцкага. Хор з посьпехам выступае й цяпер.



**- Вільня - горад шматнацыянальны. Ці адчынены дзьверы клюбу для ўсіх?**

- Безумоўна. У клюб прыходзяць, актыўна супрацоўнічаюць з ім і зьяўляюцца ягонымі членамі ня толькі беларусы, але й палякі, летувісы, татары, габрэі.

Аб'ядноўвае ўсіх не нацыянальная прыналежнасьць, а заміляваньне да ўсяго, што беларускае. Акрамя таго, наш клюб - гэта апалітычная арганізацыя, дык і гэта ў пэўным сэньсе вабіць да сябе людзей. Наша мэта - стварэньне пэўнай атмасфэры цяпла, утульнасьці, у якой чалавек мог бы адпачыць душой, на вечар, на момант забываючы пра клопаты паўсядзённі, адыходзячы ад палітыкі, якая на сёньняшні дзень прысутнічае амаль усюды. Наша мэта - не даць загінуць той беларускасьці, якая была на Віленшчыне й якая ёсьць, але якая можа адыйсьці ў нябыт, калі нічога не рабіць.

**- Можа, яшчэ крыху статыстыкі. Колькі членаў у "Сябрыне", хто яны?**

- Клюб аб'ядноўвае звыш 200 чалавек. Найбольш актыўнымі як членамі, так і сымпатыкамі зьяўляюцца маладое й старэйшае пакаленьні. Сярэдзіна неяк з гэтае цэласнасьці выпадае. Яно й зразумела.На гэтым пакаленьні трымаецца дом, сям'я. У іх, вядома, менш часу.

**- Дзякуючы за размову, хацеў бы папрасіць каардынаты клюбу, на выпадак, калі нехта захоча зьвярнуцца да "Сябрыны".**

- Безумоўна. Міла прывітаем усіх, хто цікавіцца беларускасьцю на Віленшчыне. Пісаць можна на адрас: "Сябрына", вул. Раўгіклас (Raugiklos g-ve), 25; 2001 Вільня. Тэлефон 26-03-17.

Пішыце, тэлефануйце, заходзьце!

Са свайго боку дзякую за магчымасьць расказаць пра наш клюб.

**НА ЗДЫМКАХ: Валяньцін СТЭХ; на адным з пасяджэньняў клюба "Сябрына" ў Вільні.**

**Фатаграфаваў аўтар.**

# ГАРАДЗЕНСКІЯ ЗАПІСЫ

Гарадзенскае вабласное аддзяленьне Фонду культуры выдала накладам 1000 паасобнікаў кніжку "Гарадзенскія запісы" (старонкі гісторыі й культуры).

Гэта першае выданьне такога зместу. У кнізе зьмешчана больш як дваццаць аўтараў, якія даюць падрабязны аналіз пройдзеным падзеям.

Кніга складаецца з трох разьдзелаў. Першы прысьвечаны гісторыі Горадні. Сюды ўвайшлі допісы Тацьцяны Малікоўскай, Аляксандра Мілінкевіча, Юрася Гардзеева, Аляксандра Плешавені, найбольш цікавыя, на думку аўтара гэтых радкоў, допісы Апанаса Цыхуна - "Тапанімія й гідранімія басэйну ракі Сьвіслач", а таксама Паўла Сьцяцко - "З лексічнай спадчыны жыхароў Зэльвеншчыны". Своеасаблівую цікавасьць выклікае ў чытача артыкул Аляксея Пяткевіча - "Старажытныя эвангэліі з Гарадзеншчыны".

Два другія разьдзелы меней насычаны досьледамі й тычацца галоўным чынам гістарычных і памятных датаў. Уступнае слова да "Гарадзенскіх запісаў" склаў прафэсар Сяргей Габрусевіч.

Дарэчы, кніжка "Гарадзенскія запісы" - першая ластаўка, прысьвечаная гісторыі Прынёманскага краю. На думку сябра рэдакцыйнай камісіі Ігара Жука, за першым выданьнем будуць й наступныя, больш дасканалыя, й вытанчаныя.

**(спадар).**

## "Renovabis" у Горадні

Гарадзенскую каталіцкую эпархію наведалі прадстаўнікі дабрачыннай арганізацыі "Renovabis" з Нямеччыны.

Мэтай іх прыезду зьяўляецца вывучэньне праблемаў рэстаўрацыі касьцёлаў і аказаньне ім матэрыяльнай, навуковай і тэхнічнай дапамогі ў нялёгкім працэсе адновы.

Пасьля Горадні нямецкія госьці наважыліся наведаць Пінскую й Менска-Магілёўскую каталіцкія эпархіі.

**Г.У.**

## Асяродкі савецкай культуры на злом

Больш за дзесяць год стаіць незапатрабаванай збудаваная за часы разьвітога сацыялізму ў невялічкім сквэры ў занёманскай частцы Горадні танцпляцоўка. Відаць, так і гібела б яна без патрэбы, ды час уносіць свае карэктывы. Ненаўмысна, а з жаданьнем здабыць сотню-другую дармовых цаглін гарадзенцы пачалі разьбіраць гэты архітэктурны помнік безгаспадарчасьці камуністых. За кароткі тэрмін яны напалову разабралі ўсходнюю сьценку танцпляцоўкі на свае патрэбы.

Асабліва шчыруе тут пэнсіянэр В.Ж., які разам з жонкай здабыў больш за тысячу цаглін.

**Г.ГЕРАСІМОВІЧ.**

## Кірха яшчэ не адноўлена, але з цягам часу яна будзе сапраўдным асяродкам духоўнасьці

Няшмат часу зыйшло ад таго моманту, калі рашэньнем Гарадзенскага аблвыканкаму на баланс Цэнтру нямецкай культуры Горадні была перададзена кірха. Што зроблена за гэты час, што яшчэ трэба зрабіць? На пытаньні кар. "Пагоні" адказвае завадатар аднаўленьня кірхі спадар А.С.БІНЭРТ.

- Найперш, што мы зрабілі ў будынку кірхі, зашклілі вокны, каб у памяшканьні не гуляў вецер і не трапляла дажджавая вада. Нашы папярэднікі, а быў тут архіў, ня вельмі клапаціліся пра будынак. І як сьлед - усё тут пераварылася ў друзы. Бачыце, якія аблушчаныя сьцены, а месцамі й зусім абадрана тынкоўка.

**- Тое, што кірха патрабуе добрага рамонту, гэта ня сакрэт, але з чаго вы будзеце распачынаць працу?**

- Вы заўважылі, што з паўднёвага боку ля ўнутранай сьцяны ўжо змантаваны рыштаваньні. Будзем тынкаваць яе поўнасьцю наноў. Вось тут, дзе быў алтар, барацьбіты з "опіумам для народа" зрабілі нейкую камору. Зараз дошкі, якія стваралі агароджу, мы зьнялі, але бачыце, што сабой уяўляе алтар. Здаецца, тут пашчыравалі вандалы. Каб усё зрабіць як сьлед, трэба нямала сродкаў і высілкаў.

**- Калі не сакрэт, то дзе вы здабываеце сродкі для адбудовы кірхі?**

- Мы не атрымалі ніводнай капейкі ад уладаў ці ад якіх кольвечы фундатараў. Усё робім на ўласныя складкі. Таму й ня дзіва, што справа ідзе так нетаропка. Але не гэта галоўнае. Галоўнае тое, што ў Горадні ёсьць шмат людзей, якім неабыякавы лёс гэтага помніка дойлідства. Яны ахвотна дапамагаюць, ахвяруюць сродкі, й гэта мяне радуе. Думаю, што праз пэўны час кірха будзе адноўлена.

**- Калі такое адбудзецца, то для якіх мэтаў будзе выкарыстоўвацца памяшканьне?**

- Ужо зараз тут ідуць сьвятыя службы, рэпэтуе хор "Салавейкі". Тут мы сустракаем гасьцей, тут зьбіраемся, каб вырашыць свае пытаньні. Адным словам, з цягам часу лютэранская царква стане сапраўдным асяродкам духоўнасьці для гарадзенскіх немцаў, а таксама й для тых, каму цікава спазнаць нямецкую культуру, гісторыю, музыку, мастацтва.

**- Дзякуй Вам, спадар Бінэрт, за зьмястоўную гутарку.**





## ДАСЬЛЕДАВАНЬНІ

**В.ПАНУЦЭВІЧ**

# ГОРАДЗЕНШЧЫНА Ў НАЦЫЯНАЛЬНЫМ РУХУ Ў 1918-1919 ГАДОХ

**(Пачатак у №№ 4-10)**

Рапарт Міхася Сарокі дапаўняюць іншыя матэрыялы. Так, палк.Усьпенскі (1 жніўня 1919) сьцьвярджае:

"За апошнія дні арыштаваныя ў Горадні палякамі: архіепіскап Горадзенскі й Беластоцкі Ўладзімір, сябра Тарыбы - пратаерэй Карчынскі, намеснік Беларускай Краёвай Управы - Усевалад Боеў, беларускія дзеячы: спадарства Марозавы, браты Сарокі, палк.Антонаў, ахвіцэр Фохт і многія іншыя. Адным ахвіцэрам палякам было мне перададзена ў тайніцы, што ў новым сьпіску асобаў, якія маюцца быць арыштаванымі, знаходзіцца многа ахвіцэраў, у тым ліку прозьвішча б. камандзіра Палка Езавітава, маё, як яго намесьніка, кап. Калугіна й яшчэ некалькіх ахвіцэраў, усяго 10 чалавек. Усіх арыштаваных палякі маюць намер пасьля арышту вывезьці ў Кракаў.

Усе стараньні палк.Антонава аб дазволе выехаць ахвіцэрам у Коўню дасюль бязрэзультатныя. Толькі некаторым ахвіцэрам дазволіў камандант крэпасьці прасіць пропускаў у армію Юдзеніча.

Палажэньне ахвіцэраў, затрыманых палякамі ў Горадні, скрайня цяжкае. Быў выпадак хваробы на тыф, з голаду, быў выпадак спробы самагубства. У апошні дзень была атрымана тэлеграма з Варшавы:"Выдаваць жолд ахвіцэрам даводля палоннай стаўкі" (каля 100 марак у месяц). Голад і пагроза новых арыштаў прасьледуюць. Адначасова палякі іх цісьнуць, каб пераходзілі ў легіёны. Трох мне ведамых на гэта згадзіліся: 1) старшы ад'ютант каманданта м.Горадні - ахвіцэр Жэмла, які перайшоў у кавалерыйскі полк "Татарская язда"; 2) штабротмістр Рыхтар, прыняўшы каталіцтва й паступіўшы ў той жа полк і 3) капітан Загорскі, былы камандзір нестраявой роты палка, які быў адхілены ад свайго становішча за растрату, паступіў да палякаў на службу ў Горадзенскі камісарыят у аддзел тайнай паліцыі. Гэты чалавек прынёс многа зла палку, наладжваючы вобыскі й арышты тых асобаў, якіх ён лічыў сваімі ворагамі.

Іншыя ахвіцэры палка й былы камандатуры далей верныя сваёй законнай уладзе і чакаюць на збаўленьне з Коўні..."

А вось рапарт ппар. Г.Казячага і ппар. Г.Мышкі з 14 жн. 1919г.:

"Надыходзіла вясна 1919 г., а разам з ёй набліжаліся на Горадзеншчыну з аднаго боку бальшавікі, а з другога боку - палякі.

Жудасныя хвіліны перажывала насельніцтва. Тыя, што былі ў Расеі, ведалі добра, што такое бальшавізм, а разам з гэтым голад, поўная ваенная разруха. Насельніцтва таксама разумела й тую небясьпеку, якую несьлі палякі.

Усе ўцекачы з савецкага раю яшчэ ў 1918 г. узяліся за арганізацыю галадаючага насельніцтва, што вярнулася на Бацькаўшчыну. З дазволу нямецкіх уладаў амаль усюды на тэрыторыі валасьцяў паўсталі валасныя ўправы (камітэты), якія перш за ўсё ўзяліся за арганізацыю па танных цэнах (з дазволу нямецкіх уладаў) збожжа й семя для пасеваў ды земляробскіх снадзіваў дзеля адбудовы зьнішчанай гаспадаркі. Асабліва ўдачна разгарнулася праца, калі ў Горадню пераехала Беларускае Міністэрства з Міністрам беларускіх справаў І.Я.Варонкай на чале. Ва ўсіх радзілася надзея на лепшую будучыню, упэўненасьць у собскія сілы. Зьявіліся газэты на роднай беларускай мове, сталі адчыняцца школы, шпіталі, каапэратывы... Цэлымі грамадамі людзі пацягнуліся ў Горадню, да свайго Міністэрства, беларускія дэпутаты і дэлегацыі, што шукалі ў сваім урадзе пацехі й падтрымкі ў бедах ды аховы ад нахлыну польскіх паноў, уздымаўшых галавы ўсё вышэй і вышэй у меру пранікання польскіх войскаў у Горадзеншчыну.

Першыя аддзелы польскай арміі, уступіўшыя ў Горадзеншчыну, яшчэ ў некаторай меры лічыліся з "самабытнасьцю беларусаў" (паколькі камандзіры іх былі самі беларусамі-каталікамі). Нават часова не чапалі Камітэтаў. Але вось нахлынула з "Кангрэсувкі" "шчырая" польская жандармэрыя й пачаліся арышты. Тут кажнае слова дзеячоў Горадзеншчыны, сказанае пад адрасам Польшчы, было прыпомнена (шпіёнаў аказалася дастаткова) ды паслужыла за прычыну арышту. А ўсё гэта вынікала з таго, што людзі задумаліся аб Бацькаўшчыне й захацелі яе самастойнасьці..."

Мы ў бруднай Ваўкавыскай турме. Колькі тут народу! І ўсе галоўным чынам беларусы з Горадзеншчыны. Невялікія брудныя каморкі па 12 аршынаў, а ў іх па 20-30 і больш чалавек. Тут і мужчыны й жанчыны. Днём некаторых ганяюць недзе на работу, у каморках тады крыху свабадней, але вечарам, калі ўсе вернуцца, проста недзе стаяць, а ўжо няма мовы, каб сядзець. Ноччу палавіна сьпіць, рэшта або стаіць, або ляжыць на першых. У абсалютнай бальшыні арыштаваныя былі беларусы - беларуская народная інтэлігэнцыя: настаўнікі, б.ахвіцэры, псаломшчыкі, больш сьвядомыя сяляне, стоячыя на чале сваіх грамадаў і арганізацыяў. Тут прадстаўнікі амаль кожнай воласьці Горадзеншчыны, прычым ад некаторых 3-5 і больш чалавек. Вось ляжыць на брудных нарах хворы, зьняможаны капітан Хомчык, што езьдзіў з Горадні ў Беласток для запісаў дабраахвотнікаў у беларускую армію і быў арыштаваны палякамі. Разам з ім пабіты за ўцёк з турмы ахвіцэр Бэкеш, у куце - старшыня Ваўкавыскага Павятовага Камітэту Ляхоўскі... у іншым куце - групкі сялян і сам старшыня гэтага камітэту - рухавы Данілюк..."

Дату польскай помсты на Беларусах падае Антонаў: 18 ліпеня 1919г. Ён падае такія прозьвішчы: Віцэ-старшыні Горадзенскай Беларускай Управы У.М.Боева, пратаерэя І.Карчынскага, Н.П.Марозава, С.Якавюка, справавода Аўдзевіча, інжынера Бахановіча, сьвятара А.Аглобіна, генэральшу Пурыхаву, Самсонава, рэстаратара Грыцука, дамаўласьніка Якімовіча. Крыху раней былі арыштаваныя й інтэрнаваныя ў Беласток 79 чалавек, сярод іх: палк.Антонаў, палк.Беран, пар.Банданчук, б.губ. Галіцыі Бандарук, яго жонка, Гор. паліцмайстра Балдоўскі, служыўшы ў Беларускім палку, палкоўнік артылерыі Іваніцкі, Ларыш, кап.Лапін, наст.Антонаў.

Агулам апынулася ў турмах і канцэнтрацыйных лягерах больш 2-х тысяч беларусаў з Горадзеншчыны й Віленшчыны.

"Унікалі ад арыштаў, аграбленьняў і высылкі ў турмы й лягеры, - піша Антонаў, - толькі тыя, у каго меліся "пасьведчаньні" аб добранадзейнасьці, выданыя польскімі ксяндзямі.

З першых дзён паяўленьня ў Горадні палякаў яны сталі перасьледваць беларускую мову, не дапускаючы яе ва ўсіх установах, вымагаючы зносіцца выключна на польскай мове. Асаблівую шчырасьць у гэтым выяўлялі: інспэктар школаў Вязьнікоўскі, забаранііўшы беларускую мову ў перапісцы, староста Горадзенскі Рогалевіч й паліцмайстра, што давалі вусныя й пісьмовыя распараджэньні Горадзенскаму Беларускаму Нацыянальнаму Камітэту, Школьнай Радзе і інш.

Польскай уладзе паўтарала й шавіністычна натроеная частка апалячанага грамадзянства ў прасьледаваньні беларускай мовы.

З 42 беларускіх школаў у Горадзеншчыне засталіся толькі 2 беларускія школы - у Горадні і ў Крынках; іншыя школы зачыненыя палякамі, вучыцялі разагнаны па турмах і лягерах ці зрабіліся "уцекачамі" з сваёй Бацькаўшчыны.

Я пытаў у некаторых сялян і настаўніцы Адзярыхі ў Сіняўцы, чаму палякі такія злыя на іх воласьць, чаму арыштавалі й вывезьлі недзе настаўнікаў. Усе яны сказалі мне так:

"Нас хацелі далучыць да Польшчы, але мы адмовіліся - ня хочам, ды годзе. Прыехаў да нас польскі начальнік, склікаў усіх прадстаўнікоў ад усіх вёсак, вучыцеляў пасадзіў на лаўкі й крэслы за стол і павёў салодкія гутаркі аб Польшчы. Мы й самі добра знали, што да Польшчы далучацца ня трэба, але чакаем што скажуць нашы вучыцялі. А тыя сказалі: "ня трэба", "паны ніколі нічога добрага не далі і не дадуць". Дык вось тая прычына..."

## 14. Зьнішчэньне беларускай школы й царквы

Аб становішчы ў школьніцтве й царкве ў Горадзеншчыне летам 1919г. (і пазьней) гэтак гаворыць дакумэнтальная справаздача Антонава:

"У пачатку 1919г. настаўніцтва было зарганізавана ў саюз, стварыла сваю Раду. На маю долю выпаў цяжкі абавязак стаць на чале Цэнтральнай Вучыцельскай Рады Гарадзеншчыны, вясьці працу ў арганізацыі школаў і настаўніцтва.

Абраны ў сакавіку старшынёю Рады інспэктар, палякуючы беларус Квяцінскі адмовіўся ад усякай працы ў настаўніцкай арганізацыі, выехаў у Вільню, а потым, вярнуўшыся праз тры месяцы, напісаў у газэтах, што ён выбывае з усіх беларускіх арганізацыяў і наступае на службу да палякаў...

Другі інспэктар Бельскага павету Семяцкі таксама пакінуў беларусаў, не даўшы справаздачы з затрыманых настаўнікам грошай, у выніку чаго 3-4 месяцы настаўнікі галадавалі.

Дзеля высьвятленьня й палажэньня гэтага й іншых пытаньняў Цэнтральная Вучыцельская Рада Горадзеншчыны дэлегавала мяне ў ролі старшыні Рады ў Коўню ў Беларускае Міністэрства ў чэрвені 1919г., скуль я вярнуўся ў Горадню ў палове ліпеня, прайшоўшы адлегласьць між Вільняй і Коўняй туды й назад пехатой, скуль і прывёз на адчыненьне настаўніцкіх курсаў у Горадні 17.000 марак.

Пасьля павароту з Коўні я застаў у маёй кватэры двух працаўнікоў на ніве асьветы: Дзекуць-Малея й вышэй названага Квяцінскага, правую й левую руку "беларускага дзеяча" Аляксюка. З іх першы толькі-што быў звольнены Аляксюком з Ваўкавыскай турмы, дзе ён трымаўся палякамі нібы за "бальшавізм".

Гэтую "памылковасьць" палякаў пан Аляксюк прадставіў настолькі яскрава, што горадзенская газэта "Эхо" на першай бачыне выстаўляла яго як вельмі карыснага беларускага дзеяча, які праз памылку толькі трапіў у турму й там хварэў на тарыф.

У польскага інспэктара Вязьнікоўскага Дзекуць-Малей і Квяцінскі сталі сваімі людзьмі, сталі бываць па некалькі раз у дзень у доме інспэктара й утраіх кіраваць школьніцтвам Горадзеншчыны. Усё гэта "кіраўніцтва" зводзілася да таго, як заміж беларускіх школаў устанавіць польскія.

Зьехаўшыся на настаўніцкія курсы ў Горадню настаўнікі-беларусы былі разагнаныя дамоў, а частка з Дзекуць-Малеем перабралася на курсы ў Вільню.

Будынак беларускай школы, дзе мелі адбыцца курсы, з яго маёмасьцяй захапіў польскі інспэктар Вазьнікоўскі.

Ні адзін з праслухаўшых у Вільні курсы настаўнікаў пасады настаўніка не атрымаў: беларускія школы былі зачыненыя, а новыя адчыняліся толькі польскія. Мяне арыштавалі (18 ліпеня), адабралі прывезеныя на курсы грошы з усімі дакумэнтамі й інтэрнавалі ў Кракаў. Тое ж зрабілі й адносна шмат іншых настаўнікаў.

Ад вучыцельскай Рады, на чале якой у часе майго інтэрнаваньня з дазволу інспэктара Вазьнікоўскага, пры дапамозе Аляксюка часова стаяў Дзекуць-Малей, засталася толькі на дзьвярох вывеска, а ад усіх беларускіх школаў - адна школа ў Горадні, якой кіраваў той жа Дзекуць-Малей..."

У дачыненьні да Праваслаўнай Царквы Антонаў паведамляе:

"Як толькі пачалася польская акупацыя Горадзеншчыны, перш-на-перш польскія ксяндзы пры дапамозе польскай улады пачалі адбіраць ад праваслаўных цэркваў. Да гэтага часу (1921г.) адабрана імі пад касьцёлы ў аднэй Горадзеншчыне звыш 30 парахвіяльных цэркваў і тры манастыры... Так, у Сакольскім павеце з 12 праваслаўных парахвіяў дазволена палякамі толькі 3. У Беластоцкім павеце з 13 парахвіяў асталася ўсяго 4. У Бельскім павеце з 38 парахвіяў асталося 9. У Ваўкавыскім павеце з 25 засталося 9.

Перайманьне палякамі праваслаўных цэркваў адбываецца пры помачы паліцыі з ламаньнем дзьвярэй, іканастасаў і г.д. З манастыроў захопленыя слаўныя манастыры ў Супрасьлі й Жыровічах...

Праваслаўны сьвятар ня можа пераяжджаць з парахвіі на парахвію - яго арыштоўваюць. Праваслаўны япіскап ня мае права выехаць да якойсь парахвіі дзеля адправы службы Божай бяз дазволу мясцовай польскай улады..."

**(Працяг будзе).**





# АПОШНЯЯ СТАРОНКА

## Нягледзячы на цяжкасьці

Пяць гадоў назад у Гарадзенскім вытворчым аб'яднаньні "Хімвалакно" у лясным бары быў адкрыты прафілякторый для сваіх работнікаў. За адзін заезд тут могуць паправіць сваё здароўе 95 чалавек. У мінулым годзе адчыніў свае дзьверы аздараўленчы комплекс з басейнам. У гэтым - плянуецца пачаць будоўлю грязелячэбніцы.

Для больш апэратыўнага мэдычнага абслугоўваньня работнікаў аб'яднаньня утворана свая мэдычная служба. У яе ўвайшлі 32 спэцыялісты, якія залічаны як работнікі аб'яднаньня непрамысловай групы. Аб узроўні прафэсіяналізму мэдыкаў аб'яднаньня сьведчыць хаця б тое, што кіраўніком гэтай службы зьяўляецца В.А.Сяўрук, які раней працаваў галоўным доктарам гарадзенскай паліклінікі N3.

Тут працуюць 4 цэхавых тэрапэўты, гінэколаг, стаматолаг. Непасрэдна на месцы, у сталовай, можна атрымаць парады ад доктара-дыетолага. Падоўжаны на дзьве гадзіны рабочы дзень у дзьвюх здраўпунктах. Адзін з іх працуе цэлыя суткі.

- Адміністрацыя не шкадуе грошай і на закуп мэдыкамэнтаў, - гаворыць загадчыца здраўпунктаў М.Фяткевіч. - Для веснавога аздараўленьня закуплена лекаў на 42 мільёны рублёў. Як і раней, яны выдаюцца бясплатна, згодна з назначэньнем цэхавага доктара. Іншы раз заказваем лекі пад індывідуальную замову.

Відавочна, што гроры, якія выдаткоўвае на мэдыцыну калектыў аб'яднаньня, не выкінутыя на вецер.

І.ПАЛУБОК.

## ЗНАЙШЛІ ПРЫМЯНЕНЬНЕ

Магчыма, ў хуткім часе ў Горадні адкрыецца ў новая стаянка. Варыянт яе стварэньня прапрацоўваецца кіраўніцтвам завода такарных патронаў. Справа ў тым, што пляцоўка па вуліцы Суворава, дзе знаходзіцца адзін з вытворчых участкаў прадпрыемства, мае вялікую плошчу, якая на сёньняшні дзень належным чынам не выкарыстоўваецца, а папросту пустуе. Таму й вырашылі на заводзе знайсьці ёй прымяненьне, каб зарабляць на гэтым грошы. Плануецца таксама аказаньне некаторых відаў тэхнічнага абслугоўваньня для ўладальнікаў аўтамабіляў: рыхтоўка, пафарбоўка машын. Мяркуецца, што аўтастаянка будзе прыносіць вялікі прыбытак, бо будзе знаходзіцца па дарозе, якая вядзе на Брузгі.

Нядаўна завод наведалі прадстаўнікі адной нямецкай фірмы, якія прапаноўвалі арганізаваць на базе цэха тэхасnасткі, што па вуліцы Суворава, выраб мэблі, а дзеля гэтага значна скараціць колькасьць працуючых. На такі крок кіраўніцтва прадпрыемства не магло пайсьці.

А.ПАЛАТА.

## МІНУЎ КАТАЛІЦКІ ВЯЛІКДЗЕНЬ

Упершыню па-сьвяточнаму, урачыста Саюз палякаў Беларусі адзначыў у Горадні каталіцкі Вялікдзень. Імпрэза ладзілася ў Палацы культуры хімікаў. Сабралося шмат людзей, быў падрыхтаваны цікавы канцэрт, і ўвогуле незадаволеных быццам не засталося.

Дарэчы, у першы дзень Вялікадня ніводзін з чатырох гарадзенскіх касьцёлаў не ўмясьціў усіх жадаючых. Сотні людзей падчас сьвяточнай імшы стаялі на вуліцы.

(ір).

## Крымінальная хроніка

**Горадня**

Працягваюцца крадзяжы электралічыльнікаў у Кастрычніцкім раёне. Пасьля двух крадзяжоў па прашпэкце 40 год Перамогі злачынцы пераехалі на другі прашпэкт - Касманаўтаў, дзе ў суботнюю ноч у доме N10-б зрэзалі 7 прыбораў.

* На вялікую суму падманулі на стадыёне-рынку "Нёман" двое "кідалаў" рабочага аднаго з гарадзенскіх каапэратываў, калі за прададзеную амаль новую "дзевятку" падсунулі таму 62 стадаляравыя фальшыўкі.

**Ліда**

У мінулую пятніцу ў рэчцы Лідзейка каля вёскі Пескі са шматлікімі цялеснымі пашкоджаньнямі знойдзены труп невядомага мужчыны 25-30 год.

**Слонім**

У гэты ж дзень яшчэ адзін труп, але толькі жанчыны 1916 года нараджэньня, быў знойдзены ва ўласным доме па вул.Камсамольскай. На ім засталіся яўныя сьляды пераломаў рэбраў.

У нанясеньні цялесных пашкоджаньняў падазраецца нідзе не працуючы 45-гадовы сын ахвяры, які жыў разам з маці.

**Карэлічы**

А вось таксама нідзе не працуючы сын 72-гадовага старога з вёскі Кульчычы быў больш "высакародным" - сам зьявіўся ў міліцыю.

Апоўначы, крыху працьвярэзіўшыся пасьля сумеснай папойкі, напчадак агледзеў, што бацька ўжо не дыхае. Тады і ўспомніў, што перад гэтым "аддзякаваў" таго некалькімі ўдарамі рукамі й нагамі.

**Ваўкавыск**

Тут, каля лецішчаў з непараўнальнай назвай "Казіныя горы", знойдзена 8 артылерыйскіх снарадаў.

**Сьвіслач**

Апоўдні ў нядзелю ў вёсцы Пацуі на разьбіраўшага старую печку 63-гадовага дзядзьку абваліўся цагляны комін. Вынік - лятальны.

Г.СЫСОЙ.



Адкрыцьцё навігацыі.

Фатаграфаваў У.БАРЫСАЎ.

## Дажывем да верасьня

У сталіцы Мальты Вальлецьце 11 лютага сустрэліся прадстаўнікі фэдэрацый і галоўныя трэнеры зборных шасьці краін пятай адборачнай групы чэмпіянату Эўропы па футболу, які пройдзе ў 1996 годзе ў Англіі, каб абмеркаваць і ўзгадніць календар гульняў. Ад Беларусі там прысутнічалі намесьнік старшыні Фэдэрацыі футбола РБ Л.Лапуноў і галоўны трэнер зборнай М.Вергеенка. Пасьля гарачых спрэчак быў вызначаны расклад гульняў, якім яны засталіся задаволеныя.

Прапануем яго аматарам футболу.

**1994 год**

**7 верасьня:** Чэхія - Мальта, Люксембург - Галяндыя, Нарвэгія - БЕЛАРУСЬ,

**9 ці 12 кастрычніка:** Мальта - Чэхія,

**12 кастрычніка:** БЕЛАРУСЬ - Люксембург, Нарвэгія - Галяндыя,

**16 лістапада:** БЕЛАРУСЬ - Нарвэгія, Галяндыя - Чэхія,

**13 ці 14 сьнежня:** Мальта - Нарвэгія,

**14 сьнежня:** Галяндыя - Люксембург.

**1995 год**

**22 лютага:** Мальта - Люксембург,

**29 сакавіка:** Чэхія - БЕЛАРУСЬ, Люксембург - Нарвэгія, Галяндыя - Мальта,

**26 красавіка:** БЕЛАРУСЬ - Мальта, Чэхія - Галяндыя, Нарвэгія - Люксембург,

**7 чэрвеня:** БЕЛАРУСЬ - Галяндыя, Люксембург - Чэхія, Нарвэгія - Мальта,

**16 жніўня:** Нарвэгія - Чэхія,

**6 верасьня:** Чэхія - Нарвэгія, Люксембург - Мальта, Галяндыя - БЕЛАРУСЬ,

**7 кастрычніка:** БЕЛАРУСЬ - Чэхія,

**8 ці 11 кастрычніка:** Мальта - Галяндыя,

**11 кастрычніка:** Люксембург - БЕЛАРУСЬ,

**12 лістапада:** Мальта - БЕЛАРУСЬ,

**15 лістапада:** Чэхія - Люксембург, Галяндыя - Нарвэгія.

Нагадваем, што па выніках усіх гульняў у групе ў фінальную частку спаборніцтва трапляюць толькі дзьве каманды. Ці знойдзецца месца ў ёй беларускай зборнай, час пакажа.

Д.А.

## Каляндар гульняў па футболу

3 красавіка стартаваў 2-гі круг трэцяга нацыянальнага чэмпіянату Рэспублікі Беларусь 1993-1994 гадоў па футболу. Прапануем расклад гульняў з удзелам гарадзенскага "Нёмана":

**15 красавіка** (пятніца): "Ведрыч" (Рэчыца) - "Нёман".

**20 красавіка** (серада): "Нёман" - "Тарпеда" (Магілёў).

**25 красавіка** (панядзелак): "Дынама" (Берасьце) - "Нёман".

**30 красавіка** (субота): "Нёман" - "Будаўнік" (Старыя Дарогі).

**5 траўня** (чацьвер): "Шыньнік" (Бабруйск) - "Нёман".

**10 траўня** (аўторак): "Маладэчна" - "Нёман".

**15 траўня** (нядзеля): "Нёман" - "Дынама-93" (Менск).

**21 траўня** (субота): "Нёман" - "Лакаматыў" (Віцебск).

**29 траўня** (нядзеля): "Шахцёр" (Салігорск) - "Нёман".

**3 чэрвеня** (пятніца): "Тарпеда" (Менск) - "Нёман".

**8 чэрвеня** (серада): "Нёман" - "Гомсельмаш" (Гомель).

**13 чэрвеня** (панядзелак): "КІМ" (Віцебск) - "Нёман".

**23 чэрвеня** (чацьвер): "Нёман" - "Дынама" (Менск).

## Беларусь сярод мацнейшых

Днямі зборня юніёраў Беларусі па хакэю прыняла ўдзел у адборачным турніры чэмпіянату сьвету па хакэю ў групе "В". Нашы хлопцы ўпэўнена перамаглі ўсіх сваіх сапернікаў і з наступнага года будуць выступаць сярод самых мацнейшых хакэйных дзяржаў сьвету.

Г.НЁМАН.



## Гарадзенская Вабласная Рада БНФ заклікае

У гэты складаны й цяжкі для нашай Бацькаўшчыны, Беларусі, час, калі ўладныя намэнклятурныя структуры раскрадаюць і распрадаюць здабытак нашага народу, выступаюць супраць беларускай незалежнасьці, мовы й культуры, усім, каму не абыякавы лёс нашай дзяржавы, трэба аб'ядначца ў шырокім фроньце пад штандар Беларускага Народнага Фронта "Адраджэньне". Уступайце ў БНФ!

Пішыце на адрас: 230025, г.Горадня, а/с 139. Тэлефануйце штодзень з 9.00 да 17.00 па тэлефоне 45-41-83.



"ПАГОНЯ"
РЭДАКЦЫЙНАЯ КАЛЕГІЯ
Заснавальнік: культурна-асьветніцкі фонд "БАЦЬКАЎШЧЫНА".
Адрас рэдакцыі: 230023, г.Горадня, вул.Дамініканская, 1.
Тэлефоны: 45-29-96, 45-41-83.
Газэта выдаецца па пятніцах 4 разы на месяц.
Індэкс 63124. Ліцэнзія № 465.
Фотанабор, афсэтны друк.
Гарадзенская вабласная ўзбуйненая друкарня: 230003, г.Горадня, вул.Паліграфістаў,4.
Зак. 1591
Тыр. 3644